ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

4 • 2017
красавік



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

1 красавіка

























**Малюе Алег ПАПОЎ**

# ПЛАТЫ

**Фёдар ГУРЫНОВІЧ**

Паўсюль платы, платы, платы,
Куды ні пойдзеш, ні паедзеш.
Адгарадзіліся браты,
Адгарадзіліся суседзі.

Вакол і школы, і турмы
Платам не будзе, мабыць, зводу.
Адгарадзіліся дамы,
Адгарадзіліся заводы.

Адгарадзіліся двары,
Адгарадзіліся раёны.
З якой зняверанай пары
Стаяць платы, як бастыёны?

То частакол, то мур руды,
То сеткі тонкай дрот іржавы.
Адгарадзіліся клады,
Адгарадзіліся дзяржавы.

Што не патрэбны нам платы,
Хацеў шапнуць табе на вушка.
Аднак, каханая, і ты
Адгарадзілася... падушкай.

*г. Салігорск.*






Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Алег ГУЦОЛ.



**Ганад ЧАРКАЗЯН**

## Адкрыты ліст усім папугаям

*Маналог*

Да пары да часу мы з Трыфанам жылі ў згодзе. Незалежна. Ён – у кватэры нашага добрага гаспадара на волі, я – у клетцы. Кажуць, так і павінна быць. Апошнія падзеі паказалі, што маё шчасце – клетка. Выратаванне – таксама яна. Прычынай гэтага ліста сталі паводзіны Трыфана ў апошні час.

Але давайце пазнаёмімся. Я – папугай Саня. Мне чатыры гады. Рост ад хваста да дзюбы – 28,5 см. Праўда, замеры бяру са слоў гаспадара. Ён кажа, што я вельмі прыгожы і, самае галоўнае, здольны. Словам, разумнейшы ад усіх папугаяў і нават катоў. А калі верыць гаспадару, гэта зараз – вялікая рэдкасць. Ну, а Трыфан – кот. Чорны. Вусы даўжынёй 10 см. Задзіра. У яго – самалюбівая натура. Калі шчыра, я аддаў бы палову свайго хваста, толькі б не знаходзіцца з Трыфанам у адным пакоі. Але разумею, што з жыллём сёння цяжка і трэба мірыцца з суседствам такога тырана.

Гаспадар да мяне адносіцца вельмі прыязна. Я ўсім падабаюся. Слова ў слова паўтараю тое, што пра мяне кажуць. Ну, а Трыфан? Яго не ўтрымаць, ён што хоча, тое і робіць. Нядаўна на нейкі час знік з дому. Здагадваюся, дзе бадзяўся. Пэўна, хутка з'явіцца якая-небудзь Мурка з вывадкам кацянят ды скажа, што Трыфан – іх бацька! Не дай бог дажыць да такога.

Я дыктую гэтыя радкі, а сэрца ледзь не разрываецца ад крыўды і безвыходнасці. Трыфану здалося замала гаспадаровай кватэры, і ён бессаромна лез у клетку. Сярод белага дня пакалечыў маё крыло і ледзьве не адарваў хвост! Аднак ёсць у мяне яшчэ адна крыўда на ката.

З прыходам вясны Трыфан зусім ашалеў. Гэты прахвост забыўся на ўсялякія прыстойнасці. Так кінуўся ў цемры на гаспадара, што той ужо цэлы месяц прысесці не можа. Я быў сведкам злачынства. За такое, чуў па тэлевізары, даюць пятнаццаць гадоў. Кот замахнуўся на правы чалавека...

Зараз Трыфан сядзіць быццам пад следствам, цішэй вады, ніжэй травы. І дзякуй богу. Калі ўрачы пацвердзяць, што ён псіхічна нармальны, дык не мінуць яму высокай кары. Але, ведаючы стыль праваахоўных органаў, я ўпэўнены: Трыфана хутка вызваляць. Гора мне, гора гэтай беднай кватэры! Шкада толькі гаспадара. Ён разрываецца паміж працай і ізалятарам, дзе часова знаходзіцца Трыфан.

А ўчора гаспадар заявіў, што Трыфана хутка адпусцяць. Няма сведкаў, няма зачэпак. Можа, яны думаюць, гэта я пакалечыў гаспадара?

І ўсё ж Трыфана варта правучыць. А я як-небудзь дажыву ў гэтай незайздроснай кватэры. Я папугай, і гэтым усё сказана. А каты, якімі б тлустымі яны ні былі, мяне перажыць не змогуць...

**Пераклад з рускай Казіміра КАМЕЙШЫ.**



# Аб'явы

Будзім кожную раніцу. Магчымы варыянты: званок у дзверы, званок па тэлефоне, цагліна ў акно, пацалунак у вуха, цагліна ў вуха, пацалунак у акно.

Высокакваліфікаваны экстрасэнс пазбавіць ад пахмелля. Пры сабе мець 50 рублёў і 150 грамаў гарэлкі.

Увага! Учора з нашага заапарка збегла чарапаха. Хто знойдзе, калі ласка, развярніце яе на 180 градусаў.

## КУРАМ НА СМЕХ

*Байка*



Квактуха Гусаку заяву падала,
Што Кот ёй не дае спакою:
– Дзень напралёт цікуе ён за мною.
А ўчора далічыцца не змагла
Трох жаўтароцікаў сваіх
Малых.
Загагатаў Гусак:
– Так, так...
Даю я цвёрда слова:
Драпежніка мы зловім.
Калі змяркалася за садам,
Ішоў на скон дзянёк,
Гусак і Певень селі у засаду,
Ката падпільнавалі
І накінулі мяшок.
– Цяпер табе мы ўчынім суд!
Запамятай, злыднюга:
Ніякіх апраўданняў – будзе туга.
І наматай на вус: канец твой тут.
Ды выйшла ўсё курам на смех,
Вусаты выслізнуў, бо... быў дзіравы мех.



---

Крадзе паціху іншы абармот,
Нібы той Кот.
Аднак ад пакарання уцячэ,
З разяваў пасмяецца.
І зноў
За справу чорную бярэцца.



**Лявон АНЦІПЕНКА,**
*г. Шклоў.*



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Аляксандр ШМІДТ.

**Андрэй СІДАРЭЙКА**




# Падманулі

*Гумарэска*



Справы ў фірмы ішлі кепска. Нават чуткі пра скарачэнне штату з'явіліся. Таму калі сакратарка Юлька паведаміла, што начальнік ужо чакае мяне ў кабінеце, у галаве маланкай пранеслася думка: «Вось першы гром і грымнуў».

– Хутчэй, не спазняйся, – нагадала Юлька.

«Паспее даць перуноў», – падумаў я, адчыніў дзверы ў кабінет шэфа і адразу пачуў:

– А, Фёдар Фёдаравіч! Сядайце, калі ласка. Як вашы справы?

Я моцна здзівіўся, але выціснуў з сябе:

– Пaціху.

– Добра, тады давайце адразу пяройдзем да галоўнага. Ці не жадаеце вы напісаць заяву...

– Ніколі! – не даслухаўшы, запярэчыў я.

Галоўны здзівіўся.

– Прабачце, але...

– Гатовы працаваць у дзве змены. І за вартаўніка заставацца на ўсю ноч.

– Гэта вельмі добрая ініцыятыва, ведаю, што вы сумленны работнік. Але як жа адпачынак? У нас ён абавязковы.

Пачуўшы пра адпачынак, я зусім разгубіўся

– Адпачынак? А як жа скарачэнне штату?

– Не разумею, пра што вы, – у сваю чаргу здзівіўся шэф. – У нас гэтае пытанне не стаіць на павестцы дня.

– Дык значыць, адпачынак? – перапытаў я на ўсялякі выпадак.

– Менавіта так. Зірніце ў акно. Якое надвор'е! На моры адпачнеце. Рознай садавіной паласуецеся. Згодны?

– Вядома, згодны, – прамовіў я і першы раз за дзень усміхнуўся.

– Вельмі добра, – заўсміхаўся ў адказ шэф і працягнуў мне ручку з аркушам паперы.

Я хутка напісаў заяву і яшчэ раз перапытаў:

– Можна ўжо сёння рыхтавацца да адпачынку?

– Хоць з гэтай хвіліны.

Калі выйшаў з кабінета, мне ўсё яшчэ здавалася, што мяне падманулі і зараз выбежыць грозны шэф ды пачне крычаць. Але дырэктар не выходзіў... Я спакойна дапрацаваў да канца дня і зазбіраўся дадому.

Наперадзе мяне чакаў адпачынак і шмат прыемных уражанняў!

*Рэчыцкі раён,*
*в. Караваціčы.*






Як ні цяжка,
Ды нясе мурашка!

Цяжка жыць без сораму,
Як без лекаў хвораму.

Чым больш дзяўчатак у распусце,
Тым меней дзетак у капусце.

Ёсць прамысловасць лёгкая і лёгкая атлетыка...
А лёгкія паводзіны – разбэшчаная этыка!

Шукаў багацця і забаў –
Згубіў гады. А што прыдбаў?

Няма гучнейшае актавы,
Як цягнеце за хвост ката вы.

І ночкай цёмнаю, і ў надвячорак
Крот абыякавы да ззяння зорак.

Глядзіць у вочы мне партрэт,
Але што думае – сакрэт.

Успомні былое і ўсе акалічнасці:
«Да лямпачкі» быў тады кошт электрычнасці.

Часта вяжуцца адным вузлом
Грэх са славай, дабрыня са злом.

О, колькі разоў павучалі нас граблі!
А нашы надзеі на цуд не аслаблі.

Падаць духам, сябрук мой, не трэба:
І ў забруджанай лужыне бачыцца неба.

**Алесь КОРНЕЎ,**
*г. Баранавічы.*

**Казімір КАМЕЙША**

# Салёны верш

Я не цярплю чужога болю,
Бо ад свайго не маю сну.
Ды вось жа зноў на рану солі
Камусьці хтосьці сыпануў.

І страшны ён, і несціханы,
І нават невыносны боль.
Лячыць, гаіць патрэбна рану,
А на яе знянацку — соль.

Паслухайце мяне, старога:
Соль сыпле не туды народ.
Кідайце лепей на дарогу,
І то зімой, у галалёд.

Без солі ў рот не лезе страва,
А будзе соль — дык будзе й
смак.
На лад не пойдзе, пэўна, справа,
Як солі ў пошуку няма.

Без солі вершаў не чытаюць,
Таму і жыць няпроста нам.
«А дзе тут соль?» — цябе
пытаюць.
Ну, не ў сальніцы ж той яна.

Яна не паддаецца воку,
Ані пяру ў тваіх руках.
Яна бывае там, далёка,
Дзе нават сорамна шукаць.

Я дам вам добрую параду,
І чужакі, і сваякі:
Навошта сыпаць соль на рану?
Саліце лепей агуркі!

*г. Мінск*

## Мімаходзь

### Погляд песіміста

У жыцці два этапы: спачатку не хапае розуму, а потым здароўя.

Некаторыя ўвесь час чакаюць свайго карабля, не разумеючы, што знаходзяцца на чыгунцы.

Сёння ты на кані, а заўтра — сам конь.

### Погляд аптыміста

Бяры ад жыцця ўсё, што трэба, а чаго нельга, бяры асцярожненька.

Калі вы знайшлі добрае месца ў жыцці — абавязкова паркуйцеся!

Будзьце ў цэнтры свайго жыцця, а не на ростанях ці ў лабірынтах.

Найлепшы спосаб многім насаліць — зрабіць сваё жыццё салодкім.

**Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*

Сціхні, дзед! У акіян жа адыходы скідаюць, чым наша сажалка горшая?

Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# Байкі ў прозе

## Свая філасофія

Свіння доўга назірала за тым, як Конь старанна працуе з гаспадаром на полі.

– Хто бяжыць, таго й падганяюць, а хто ляжыць, таго й не чапаюць, – па-філасофску разважыла яна і лаўчэй уладкавалася ў памыйнай лужы.

Тады Свіння яшчэ не ведала, для чаго яе гаспадар трымае.

## Модніца

Убачыла Лісіца хвосцік Зайца і цікавіцца:

– А чаму ён у цябе такі кароткі?

– Ты што, Лісіца, не ведаеш? Гэтак модна зараз, – адказаў касы.

Лісіца падумала-падумала ды адарвала свой пушысты хвост, каб таксама павмоднічаць. Але без хваста яна не змагла ўцякаць ад сабак і загінула.

Не трэба слепа ісці за модай, калі гэта шкодзіць тваёй прыродзе.

**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*




Дзве сяброўкі размаўляюць па тэлефоне:

– Алё, Света, сёння ж 1 красавіка! Цябе ніхто яшчэ не разыграў?

– Не, ты ж мяне ведаеш, я на такое не вядуся. Давай лепш пазней пагаворым, а то я зараз у спаборніцтвах удзельнічаю.

– У якіх?

– Званіў муж, сказаў, што мяне запрасілі на конкурс «Лепшая жонка». Ён упэўнены, што я пераможу, і таму ўжо чакае мяне на фінішы са сваімі сябрамі, фотаапаратам і кветкамі. А мне неабходна дома нагрэць прас і бегчы з ім да піўбара. У каго прас на фінішы будзе самы гарачы, той і пераможа. Усё, я пабегла.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Разумны тым адрозніваецца ад дурня, што, калі абодва раззлуюцца, разумны становіцца дурнем, а дурань разумным.
*Васіль Ключэўскі, рускі гісторык*

Каханне – гэта памылковая думка, быццам адна жанчына адрозніваецца ад іншай.
*Генры Менкен, амерыканскі крытык і публіцыст*

Калі хочаце даведацца пра недахопы дзяўчыны, пахваліце яе перад сяброўкамі.
*Бенджамін Франклін, амерыканскі палітычны дзеяч*

Правіцелі маюць значна большую патрэбу ў мудрацах, чым мудрацы ў правіцелях.
*Абу-ль-Фарадж, арабскі паэт і вучоны*

Шлюб прыносіць шмат расчараванняў, аднак бясшлюбнасць не дае ніякіх радасцяў.
*Сэмюэл Джонсан, англійскі паэт, крытык, лексікограф*

Хто не пакутаваў ад бяссонніцы, той не ведае сваёй біяграфіі.
*Дон-Амінада, рускі пісьменнік*

Каб дайсці да мэты, трэба перш за ўсё ісці.
*Анарэ дэ Бальзак, французскі пісьменнік*

Мы не для таго жывём, каб есці, а ядзім для таго, каб жыць.
*Сакрат, старажытнагрэчаскі філосаф*

Развод – гэта засцерагальны клапан шлюбнага катла.
*Адрыян Дэкурсэль, французскі драматург*




Неяк вырашыў пажартаваць у рэзюмэ. У графе «станоўчыя якасці» напісаў — адсутнасць сумлення. І мне адразу ж сталі прапаноўваць та-а-а-акія пасады...

* * *

— А я ўчора жонку на «Атэла» вадзіў!
— Ух, ты! Культурная праграма?
— Не, для прафілактыкі...

* * *

У дзяцінстве я часам задумваўся, чаму дарослыя не могуць вырашыць найпростыя праблемы. Напрыклад, жыць мірна.

Потым я вырас і зразумеў, што дарослых не існуе.

* * *

— Забудзьцеся ўсё, чаму вас навучылі ў інстытуце! Тут вам гэта не спатрэбіцца.
— Я не вучыўся ў інстытуце.
— Тады вы нам не падыходзіце: нам патрэбныя спецыялісты толькі з вышэйшай адукацыяй.

* * *

Раніца. Панядзелак. Начальнік пытаецца:
— У цябе вочы чырвоныя. Піў, ці што?
— Не! Па працы сумаваў, плакаў!

* * *

Калі б за паўторны сігнал будзільніка на мабільніку спісваліся грошы, то ўсе б уставалі своечасова.

* * *

Для адэкватнай самаацэнкі чалавеку патрэбны сабака, які будзе яго любіць, і кот, які будзе яго ігнараваць.

**Сабраў Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*




Алег КАРПОВІЧ.



Пётр КОЗІЧ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Алег КАРПОВІЧ.




Пётр КОЗІЧ.

**Міхась МІРАНОВІЧ**




## Не зразумела

Дачку штодня
Ўпікае маці:
– Ты ўсё гуляеш,
А чаго?
Ды прывядзі нарэшце
Зяця!
Дачка пытае:
– А чыйго?..

## Штосьці не тое



На жаль,
Сказаць павінен я:
З табою штось
Не тое сталася –
Калі была ты
Не мая,
Тады мне болей
Падабалася.

## Адпомсціла



Пакрыўдзіў неяк
Сцёпка Ганну.
І, не даруючы
Таго,
Яна адпомсціла
Сцяпану.
Як?
Выйшла замуж за яго!

## Жанчыны і сакрэты




Не сустрэнеш, напэўна,
Кабету,
Што не мела б
Якогась сакрэту.
І, тым больш,
Нешта верыцца мала,
Што адна хоць
Яго утрымала.

*г. Віцебск.*

# Прыпеўкі



***

Добра мілы прытуляе,
Сена косіць і арэ,
Пра каханне размаўляе...
Толькі замуж не бярэ.



***

Заплялі валасы
Нашы маці ў дзве касы.
Мы ж, нібы бабулечкі,
Толькі круцім гулечкі.



***

Як жа тут не абурацца,
Паглядзі, што робіцца:
Хлопцы хочуць цалавацца,
А пасля – знаёміцца!



***

Вы не стаўце ў панядзелак
Дрожджы на заквасачку.
Не кахайце сорак дзевак,
Адну толькі красачку!



***

У маёй душы пажар,
А ты не хвалюешся.
Ну, які з цябе дудар,
Калі не цалуешся?





***

Лепшага, чым мой Цімоша,
Вы не знойдзеце нідзе.
Ён прывабны і харошы,
Як цыбулька на градзе!



***

Любяць хлопцы выпіваць,
На спадніцы косяцца.
Не паспеюць пакахаць,
Як у ложак просяцца!



***

Ой, вясёлая гулянка,
Ды багата тут разяў.
Абдурыў мяне Іванка,
А Міхась у жонкі ўзяў!



***

Ты – сыпучы беражок,
А я – твая рэчка,
Ты – чыгунны мой гаршчок,
А я – твая печка!

**Праспявала**
**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*




## Правучылі

Дзве суседкі прыпыніліся ля калодзежа, каб навіны абмеркаваць. Вёдры з вадой побач стаяць, а жанчыны ўсё спыніцца не могуць: лапочуць і лапочуць!

Доўга чакалі Кастусь і Гаўрыла жонак дадому. Але не вытрымалі і вырашылі з іх пажартаваць. Нарэзалі хлеба, сала, бульбы наварылі, ды панеслі да калодзежа.

– Ну што, даражэнькія нашы, – мужчыны з усмешкай працягнулі разгубленым кабетам пачастункі. – Час падмацавацца! Зранку, відаць, зусім галодныя...

## Зманіў

Вясёлы чалавек Міколка! Схлусіць – не засароміцца. Пажартуе – вокам не павядзе.

Сядзелі аднойчы суседкі на лавачцы, а Міколка паўз іх ішоў. Можна сказаць, хутка крочыў. Бо неахвота яму з балбатлівымі жанчынамі звязвацца.

– Што, Міколка, усю хлусню раздаў? – кінулі хлопцу ўслед суседкі. – А схлусі нам! Усё роўна ж не паверым.

– Няма калі! Тавар разгружаюць каля магазіна, трэба што купіць, – адмахнуўся Міколка і пабег далей.

А жанчыны падхапіліся, бягом дамоў па торбы і грошы. Прылятаюць да магазіна, ды дзверы на замку. Нікога няма.

Падмануў іх Міколка, ды як лоўка!

**Галіна МІЦКЕВІЧ,**
*г. Петрыкаў.*




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

# Ці быць абавязковаму адпачынку?

*Міні-фельетон*

У далёкую эпоху, яшчэ на світанку гісторыі чалавецтва, існаваў пэўны тып сям'і: жанчына з дзецьмі заставаліся каля ачага, а мужчына адпраўляўся на паляванне. Здабыванне ежы было вельмі важным, але складаным і небяспечным заняткам, які забіраў час і сілы. Таму меркавалася, што мужчына можа не прымаць удзел у хатніх справах.

Зараз усё карэнным чынам змянілася. Мужчыны ў сучасных сем'ях выконваюць тыя абавязкі, якія раней лічыліся выключна жаночымі. Для большасці еўрапейскіх краін гэта натуральна: шлюбная пара дзеліць хатнія справы, бо працуюць і зарабляюць на роўных.

Але для нашай краіны ўсё крыху інакш. Віцэ-прэм'ер Беларусі Васіль Жарко выказаў думку: «Пакуль у Беларусі мужчыны вельмі рэдка карыстаюцца магчымасцю водпуску па доглядзе за дзіцём. Відавочна, што і самі яны недаацэньваюць мужчынскі ўдзел у выхаванні дзяцей». Нават вядомы педыятр, доктар вышэйшай катэгорыі Яўген Камароўскі, завітаўшы нядаўна ў Мінск на спецыяльную сустрэчу, здзіўляўся: «Дайце я спачатку пагляджу, колькі мужчын да нас прыйшло? — агледзеўшы залу, выдаў вердыкт: — Ага, каля 15%. У нас сітуацыя прыкладна такая, як у Расіі і ва Украіне. Вось у Бішкеку на 500 чалавек прыйшло ўсяго тры таты, затое ў Хельсінкі 50% аўдыторыі складалі мужчыны. Гэта паказвае стаўленне і цікавасць моцнай паловы чалавецтва да выхавання дзяцей. У нас лічыцца, што харчаванне, хваробы, садок — гэта клопаты маці. Але гэта вельмі дрэнна, калі жыццём дзіцяці займаецца толькі жанчына, а мужчына праяўляе ўвагу эпізадычна».

Пра сітуацыю, якая склалася ў нашай краіне, сведчаць і адносіны паміж бацькамі, якія часцей за ўсё праходзяць па наступнай схеме:

— Любы, памый падлогу, калі ласка, — просіць жонка.

— Я што, прыбіральшчыца? — адказвае муж. — Я мужчына, мая справа — зарабляць і абараняць, а не з анучай бегаць.

— Дарагі, пакармі дзіця.

— Я ж толькі што прыйшоў, дай адпачыць!

Каб павысіць ролю бацькі ў жыцці дзяцей, у Беларусі вынеслі на грамадскае абмеркаванне пытанне аб увядзенні абавязковага сацыяльнага адпачынку для мужчын пры нараджэнні дзіцяці. Кажуць, гэта зменіць сітуацыю бацькоўскіх адносін да выхавання дзяцей. Бо любому дзіцяці бацька — вельмі важны чалавек, які ўвасабляе сабой сілу, мужнасць, стабільнасць, ахову. Але мужчыны часам перавагу аддаюць кар'еры, і ў выніку сыны і дочкі растуць практычна без бацькі. Тыя змены, якія плануюць прыняць у Беларусі, дазволяць бацькам раўнацэнна ўдзельнічаць у выхаванні дзіцяці. А як лічыце вы? Такі адпачынак патрэбен?

**Алеся НІКІФАРАВА,**
*г. Віцебск.*



Алег КАРПОВІЧ.



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# Сакрэты імунітэту

Секратанін — гармон эмоцый,
Якога нестае вясной.
Хтось па яго ляціць у Сочы,
А хто — на дачны ўчастак свой.

І я гармон той здабываю,
Калі капаю агарод.
Бадзёрым быць дапамагае
Яшчэ пры гэтым кісларод.

Люблю гармон задавальнення —
Вядомы ўсім нам дафамін.
Не будзе без яго натхнення,
Ён знішчыць стрэс, дэпрэсій клін.

Не трэба бегаць па аптэках,
Прасіць у доктара рэцэпт.
Шмат дафаміну у арэхах,
У тварагу і малацэ.

Я піў і еў як след штодзённа
І выдаю такі сакрэт:
Сабраў багаты скарб гармонаў,
А ў ім — і мой імунітэт.

**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*






Пётр КОЗІЧ.



Аляксандр ШМІДТ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# Каб вам ахвотней усміхалася




З прыемнасцю адзначаем той факт, што апошнім часам актыўна выходзяць у свет зборнікі твораў нашых гумарыстаў. Выдавецтва «Чатыры чвэрці» нават заснавала цэлую серыю пад назвай «Несур'ёзна пра сур'ёзнае». Нядаўна яна папоўнілася яшчэ адной адметнай кнігай – зборнікам вершаваных і празаічных гумарэсак Аляксандра ЖУКОЎСКАГА «Мой вясёлы сябра». Выданне аб'яднала ў сабе гумарыстычныя творы рознай тэматыкі: аўтар прапясочвае няўдалых гаспадароў, успамінае цікавыя выпадкі з педагагічнай дзейнасці, расказвае пра санаторныя прыгоды. Прычым робіць гэта лёгка і добразычліва, з адзінаю мэтай – каб «рассмяшыць ці, скажам так, павесяліць людзей». Адным словам, каб вам, паважаныя чытачы, ахвотней усміхалася!

**Аляксандр ЖУКОЎСКІ**

## Пра Івана-гумарыста і жанчыну-насупу

Кемлівы Іван умее
Пры нагодзе выдаць жарт.
Нібы зерне, гумар сее
Сярод хлопцаў і дзяўчат.
І прыколаў, і гісторый
У яго, як кажуць, шмат.
Весялун заўжды ў гуморы,
Падзяліцца смехам рад!
Неяк раз Іван у краме
Жартамі народ смяшыў.
Прадаўцы з пакупнікамі
Рагаталі ад душы.
Але ўсё ж адна кабета
Бровы хмурыла заўзята:
– Падзяліцеся сакрэтам:
Халасты вы ці жанаты?
– А чаму вас так цікавіць
Мой сямейны, скажам, стан? –
Каб жанчыну як забавіць,
У яе спытаў Іван.
– Я на месцы вашай жонкі
З вамі доўга б не жыла.
Жарты ўеліся ў пячонку –
Адшукала б маўчуна!
Гумарыст не разгубіўся:
– З вамі б я не ажаніўся,
Бо не змог бы жыць з насупай
І бурчанне штодзень слухаць!




## «Падлячыўся»

Цімох дзясятак сёмы размяняў,
Шчасліва жыў і не хварэў ніколі.
Ды тут, нібы паблытаў чорт: прыдбаў
На красавік пуцёўку ў санаторый.
Рашэнне гэткае Цімох прыняў,
Паслухаўшы суседа Мікалая,
Які нядаўна сам адпачываў
І толькі што вярнуўся з таго раю.
Вучыў: «Не бойся раскрываць свой рот,
На танцах борзда варушы нагамі.
Жанчыны, нібы мухі на той мёд,
Да смелых кавалераў ліпнуць самі».
Вось наш герой адпачывае
У здраўніцы, што ля крыніцы.
Ён і фліртуе, і спявае –
Не ліпнуць штосьці маладзіцы!
Здаровы дома быў, здаецца, –
Цяпер баляць душа і цела.
Сядзіць у нумары, злуецца:
Пуцёўка поўнасцю згарэла!

*г. Клецк.*

ІМПАРТ



Байрам
ГАДЖЫЗАДЭ

# Час для творчасці

Пазнаёміўшыся аднойчы з творчасцю азербайджанскага мастака-карыкатурыста Байрама ГАДЖЫЗАДЭ, глядач ніколі не забудзе поўныя філасофскага сэнсу творы. Дакладная штрыхоўка, глыбокія тэмы, прадуманыя характары герояў карыкатур надаюць асаблівую каштоўнасць графіцы Байрама. Дзіву даешся, як доктар мастацтвазнаўства, прафесар, Прэзідэнт Азербайджанскай групы ў Міжнароднай федэрацыі аб'яднанняў карыкатурыстаў і член Рэдакцыйнай калегіі часопіса «Feconews», які выдаецца ў Еўропе, дзеяч мастацтваў Азербайджанскай Рэспублікі знаходзіць час для творчасці? На гэтае пытанне Байрам адказвае, што пасля працы, бізнесу і вечароў з роднымі на карыкатуру застаюцца некалькі гадзін ноччу.

Хочацца пажадаць Байраму Гаджызадэ здароўя і творчых сіл на доўгія гады яго насычанага і яркага жыцця!




**Малюе Байрам Гаджызадэ**

**(Рэспубліка Азербайджан)**









# Кожны выбірае сам

*Фельетон*

Раніцай панядзелка факультэт абляцела навіна: на кафедру ўладкаваўся працаваць новы выкладчык. Самай цікавай падрабязнасцю, якая так узрушыла студэнтаў, стала тое, што свой прадмет ён збіраецца весці па-беларуску. Дагэтуль будучыя эканамісты ўсе профільныя дысцыпліны слухалі на рускай мове, таму абмеркаванне навіны праходзіла горача. Група, якая павінна была першай пазнаёміцца з новым выкладчыкам, пад дзвярыма аўдыторыі развяла цэлую дыскусію...

– І як цяпер быць? – выказала сваё незадавальненне Алена, актывістка, без удзелу якой не абыходзілася ніводнае масавае мерапрыемства ва ўніверсітэце. – Па-беларуску я нічога не разумею, а цяпер яшчэ і вывучыць прадмет на беларускай мове давядзецца. Прапаную паскардзіцца ў дэканат, каб нам далі іншага выкладчыка.

Паміж студэнтаў узнікла дыскусія.

– Па-першае, гэта глупства, па-другое – нічога не атрымаецца, – спакойна адказаў ёй Дзяніс, староста групы. Убачыўшы ў вачах астатніх аднагрупнікаў пытанне, патлумачыў: – У нашай краіне дзве дзяржаўныя мовы – руская і беларуская, таму кожны мае права выбіраць мову зносін.

– І я за рускую мову, – не згаджалася Алена. – Мяркую, не толькі я, а большасць з нас лічыць, што беларуская мова – гэта атавізм.

– Ага! Мы павінны адстаяць права выбіраць мову, на якой будуць весціся лекцыі! – з'едліва заўважыў Андрэй, якога ведалі ўсе выкладчыкі, бо ніводная пара не абыходзілася без яго жартачак. – Далучаюся да Алены, я таксама не згодны з такім раскладам. Навошта траціць час на тое, каб разбірацца ў мёртвай мове? Хіба мне рабіць няма чаго? Беларуская мова яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў пажыве і зусім знікне.

Студэнты напружыліся. Словы былі жорсткія...

– Ты асцярожней з выказваннямі, Андрэйка, – Дзяніс па-сяброўску, але з сілай паляпаў аднагрупніка па плячы. – Сёлета на Гомельшчыне ўжо прыцягнулі да адказнасці хлопца, які абразіў беларускую мову. Ён пакінуў у сацыяльнай сетцы негатыўны каментарый. Каментарый заўважылі грамадскія актывісты, справа дайшла да суда і ў выніку хлопец заплаціў штраф у памеры 10-і базавых велічынь. Прычым гэты выпадак не адзінкавы, – працягваў Дзяніс. – Такі ж штраф была вымушана заплаціць жыхарка Рэчыцы, якая назвала беларускую мову «недарэчным асарці з рускай і польскай». Летась таксама адбылася гісторыя...

– Усё-ўсё, я зразумеў! – адмахнуўся Андрэй. – Мая стыпендыя такія затраты не пакрые, таму буду маўчаць, – хлопец паспяшаўся пакінуць натоўп студэнтаў.

– У каго яшчэ якія меркаванні на гэты конт? – запытаў у аднагрупнікаў Дзяніс.

– Калі выкладчык і сапраўды будзе размаўляць на чыстай беларускай мове, з задавальненнем яго паслухаю, – адгукнулася на пытанне Іра. Дарэчы, яна цудоўна размаўляла па-беларуску. – Беларуская мова па сваёй мелодыцы не горшая за тую ж французскую і італьянскую. Ды, ўрэшце, мы павінны ведаць родную мову.

– Я таксама так лічу! – усмешлівая Саша, якая заўсёды размаўляла на сумесі рускай і беларускай, прыняла бок Іры. – Будем лекцыі слушать на беларускам, што тут плахога?

– Ну, добра, – стрымліваючы смех, пагадзіўся з Сашай Дзяніс. – Іра, дзякуй табе за меркаванне. Але ж якой бы цудоўнай ні была б наша мова, статыстыка кажа адваротнае. Нядаўна чытаў інфармацыю па перапісе насельніцтва за 2009 год. Тады больш за 5 мільёнаў чалавек з амаль 10-мільённага насельніцтва Беларусі назвалі беларускую мову роднай. А яшчэ больш за мільён заявілі пра свабоднае валоданне мовай. Аднак пры гэтым толькі менш за 24% насельніцтва прызналі, што размаўляюць па-беларуску дома.

– І праўда, сумная статыстыка, – уздыхнула Алена. – Яна з цікавасцю праслухала ўсе меркаванні і ўжо не з такім імпэтам абараняла сваю думку.

– Ведаеце, у мяне ёсць адзін незвычайны сябра, – раптам падтрымала гутарку Марына, – ён прыехаў некалькі гадоў назад у Беларусь з Кітая. Потым зацікавіўся нашай роднай мовай і цяпер без праблем на ёй размаўляе. Слухаю яго і адчуваю нават нейкую зайздрасць!




Сяргей ВОЛКАЎ.

— Во-во! І я пра такое чуў, — падхапіў Дзяніс. — Была ж гісторыя пра жанчыну, якая ў мінскім метро вітала пасажыраў па-беларуску...

— На якую адзін злосны пасажыр потым напісаў скаргу? — раптам ажывілася Алена. — Было такое. Мужчына палічыў зварот па-беларуску навязваннем. Хоць я і недалюбліваю беларускую мову, але і мяне гэты выпадак закрануў.

— Што цікава, сама жанчына — не карэнная беларуска, яна пераехала да нас шмат гадоў таму з Ташкента, — дапоўніў гісторыю Дзяніс. — Проста зацікавілася беларускай культурай і гісторыяй.

З калідора пачуўся стук мужчынскіх абцасаў. Студэнты сцішыліся — прыйшоў выкладчык. Ён з усімі павітаўся, адчыніў кабінет і пачаў лекцыю.

— Рады знаёмству, шаноўныя сябры! Мяне завуць Ігар Васільевіч. Увесь гэты і наступны семестр я буду ў вас выкладаць. Як вы ўжо зразумелі, размаўляю я па-беларуску. І калі вы не супраць, буду весці лекцыі на роднай мове. Каб не навязваць вам сваю думку, прапаную вырашыць пытанне чэсна. Падыміце, калі ласка, рукі, хто згодны з тым, каб лекцыі праводзіліся па-беларуску.

На некалькі секунд студэнты задумаліся. У групе быў 21 чалавек, а значыць, роўнага ліку быць не магло. Адзін, два, тры... Рукі паднялі дзесяць чалавек.

...Але хутка ў аўдыторыі, хоць і не зусім упэўнена, паднялася адзінаццатая рука — Аленіна.

**Яна ВЕРАБЕЙ,**
*г. Ліда.*




Алег ГУЦОЛ.




Гады забіраюць у чалавека здароўе і сілы, а пакідаюць вопыт і веды.

Іншы начальнік і «пяціхвілінку» заканчвае праз гадзіну.

Ён быў ні ў зуб нагой у баявых мастацтвах.

**Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г.п. Уваравічы.*

Калі аднаго кахання на дваіх не хапае, узнікае любоўны трохкутнік.

Ёсць жа людзі: кожны дзень ядуць чырвоную ікру і не чырванеюць!

Каб жыць у багацці, мала багатага ўяўлення.

Цямніць людзям сонца не перашкаджае.

Пульс — гэта гадзіннік, які адлічвае наш зямны час.

З балбатлівым чалавекам і пагаварыць няма пра што.

Калі бярэшся за розум, дык радзей даводзіцца хапацца за галаву.

**Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




## Лёля БАГДАНОВІЧ

## Данілава шчасце

*Казка*

У адной вёсачцы жыла некалі дзяўчына Адэля. Такая прыгажуня была! Каса амаль да долу. Вочы блакітныя, як нябёсы ў пагодны дзень. Пяшчотная і цярплівая. А працавітая якая: і ткала, і вязала, і вышывала! Адна толькі загана – дужа бедная. Сірата. І закахаўся ў яе малады каваль Даніла з суседняга сяла. Ні спаць, ні есці не мог, толькі пра Адэльку і думаў. Але бацькі і слухаць яго не хацелі.

– Не быць па-твойму, сынок! Ніколі! – прычытала маці. – Навошта табе гэта галота? Хіба іншых дзяўчат мала? А калі пойдзеш мне наперакор, лічы, што няма ў цябе матулі. Нагі маёй не будзе ў тваёй хаце.

Але не паслухаўся Даніла і праз нейкі час заслаў сватоў да Адэлькі. Пабраліся маладыя шлюбам. І нарадзіўся ў іх хлопчык Лесік. Бацькі не маглі нарадавацца на сваё дзіцятка. Даніла змайстраваў для сына калыску, Адэля выткала каляровую коўдру. Гады ішлі, і хлопчык падрастаў. Ужо і ў лес з таткам хадзіў, і на рыбалку, матулі па гаспадарцы дапамагаў. Хоць бедна жылі яны, але вельмі дружна. Самі дабро людзям рабілі і сына гэтаму ж вучылі.

І вось аднойчы, калі Лесік быў адзін дома, да варот падышла старая бабуля:

– Падай мне вады, дзіцятка, – звярнулася яна да Лесіка, – стамілася вельмі, здалёк іду.

– Зараз, бабулька, прынясу! – адгукнуўся Лесік. – А вы ў хату зайдзіце. Я і малачка вам дам, і хлебца.

– Дзякуй, родненькі, зайду, калі запрашаеш, – і старая, увайшоўшы ў сенцы, прысела ля стала на край лаўкі. – Ногі баляць вельмі. А бацькі твае дзе? Чаму адзін дома? – пацікавілася яна.

– Татка ў кузні, а мама на агарод пайшла.

– І больш нікога няма?

– Кошка ёсць, Маруся. Толькі збегла яна некуды. А яшчэ Шарык. Ды той, відаць, з матуляй на агарод пашыбаваў. Мяне пакінулі за казою Зоркай наглядаць, каб шкоды не нарабіла. Пасвіцца вунь, за плотам, – махнуў рукою хлопчык у бок сенакосу. – Вось вам малако.

– Ды ты, бачу я, добры памочнік, – хітра ўсміхнуўшыся, пахваліла малога бабуля і прыгарнула да сябе, – і ўдалы, і прыгожы. І на татку вельмі падобны.

– А вы што, татку майго ведаеце? – здзівіўся Лесік. – Ды вы частуйцеся, калі ласка. Дужа карыснае Зорчына малачко. Так мама казала.

– Дзякую, маё дзіцятка. І смачнае, і карыснае. Асабліва з тваіх ручак...

– Ой, як я рады цябе бачыць! – Даніла моцна абхапіў старую за плечы, – ну, нарэшце! Ужо і з унукам пазнаёмілася?

– Вельмі добры хлопчык расце. Сапраўдны мужчына! І я таксама рада. Прабач мне, сынок...

– Якія госці ў нас сёння дарагія! Хуценька ўсе за стол! – Адэля, надзеўшы фартушок, стала завіхацца на кухні.

*г. Барысаў.*



Юрый МІХАЙЛАЎ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.

У нас у гасцях

# бярозка



## Анекдоцікі

Пакуль мячык ляцеў у бок акна дырэктара, дзеці перадумалі гуляць у футбол і пачалі гуляць у хованкі.

* * *

З размовы двух хлапчукоў.

— Што ты будзеш рабіць, калі на цябе нападуць хуліганы?

— Я іх не баюся, бо ведаю дзюдо, каратэ, айкідо і іншыя страшныя словы!

* * *

— Ты каго больш любіш: брацікa ці сястрычку? — пытаецца маці ў малога Косціка.

— Сястрычку! — упэўнена адказвае той. — Яна мой дзённік падрала і ў сметніцу выкінула...

* * *

Аднойчы на ўроку.

— Ёсць дзве рэчы, якія я лічу самымі важнымі, — кажа настаўнік вучням. — Першая — гэта чысціня. Вы ўсе выцерлі ногі аб палавічок перад дзвярыма?

— Так, усе! — хорам закрычалі вучні.

— Вельмі добра! А другое — гэта праўдзівасць. Перад дзвярыма няма аніякага палавічка.

## Пытанні для знаходлівых

**1.** Падышлі да ракі качаня і кураня. Хто з іх хутчэй пераплыве на той бераг?

**2.** Два бацькі падарылі сваім сынам грошы. Адзін сын атрымаў 10 рублёў, другі — 5 рублёў. Але калі склалі іхнія грошы, атрымаецца толькі 10 рублёў. Як гэта можна растлумачыць?

**3.** Мінск знаходзіцца амаль што ў цэнтры Беларусі. А што знаходзіцца ў самай сярэдзіне Мінска?

**Адказы на пытанні:**

**1.** Адказ — качаня. Кураня не можа плаваць;

**2.** Сын першага бацькі з'яўляецца бацькам для другога сына. Ён даў сыну палову ад той сумы, якую атрымаў ад свайго бацькі і яго дзядулі;

**3.** Літара «н».

Анатоль ЗЭКАЎ

## Загадкі

Пазіраючы на дзверы,
Ціха месціцца ў паро́зе.
Калі ў рукі возьме Вера —
Аж заскача па падлозе.

*(Венік.)*

* * *

Што гэта за птах,
Хто з вас адгадае:
Усеўся на дах
І дым рассцілае?

*(Комін.)*

* * *

Стаіць на кухні шафа гэта —
І ў ёй марозна нават летам.

*(Халадзільнік.)*

* * *

Як гарбаты пажадаеш —
На пліту яго ты ставіш.
Будзе там шумець і ныць,
Аж пакуль не закіпіць.

*(Чайнік.)*

* * *

Зможаш толькі ёй данесці
Суп да рота, каб паесці.

*(Лыжка.)*

* * *

Хоць самі нібыта малыя,
Ды ў дошкі залазяць глыбока.
І дах ты без іх не накрыеш,
І рамы не зробіш для вокнаў.

*(Цвікі.)*

* * *

Калі ў лесе ты ці ў гаі —
Шмат іх там стаіць.
Нагу толькі адну маюць,
Рук жа не злічыць.

*(Дрэвы.)*

* * *

Калі раптам заблукаў,
Дык адно хіба ўзбадзёрыць:
Каго б ты ні пагукаў,
Голас твой яно паўторыць.

*(Рэха.)*




## Калі жыць?

Маленькі Ромка ідзе з дзядулем з дзіцячага садка і раптам выпальвае:

– Дзеда, не хачу я хадзіць у садок, буду спакойна дома сядзець!

– Не, унучак, – усміхаецца стары, – спакойна не атрымаецца. У цябе яшчэ наперадзе школа – 11 гадоў, армія – 2 гады, універсітэт – 4 гады, праца каля 40 гадоў, а ўжо потым...

Хлопчык усхвалявана перабівае дзеда:

– Вой, дык а калі я тады буду жыць?!

## Сама не рада

Бабуля расказала ўнуку, як зусім маленькім вучыла яго гаварыць і хадзіць. Вадзімку чатыры з паловай гады, хлопчык увішны, непаседлівы. Другі раз бабуля паскардзілася: ад ягонага крыку і тупату ў вушах гудзе і ў вачах мільгаціць. На што хлопчык падбег да яе, абняў за шыю і, з хітрынкай заглянушы ў вочы, спытаў:

– Бабулечка, дык скажы папраўдзе, ты ўжо і сама не рада, што навучыла мяне гаварыць і бегаць?

## Баюся пенсіі

Малая Юлечка кліча бабулю пагуляць з ёю ў цацкі. Тая адказвае, што не можа, бо часу няма. Дзяўчынка раптам кідае свае цацкі, садзіцца побач з бабуляй і з жахам кажа:

– Я так баюся пенсіі! Раніцай унучку ў садок адвядзі, у магазін схадзі, есці зрабі, посуд памый, парадак у кватэры навядзі, а потым яшчэ і шкарпэтак навяжы... Нават з цацкамі пагуляць не будзе калі!

**Даслала Ірына КАРАЧУН,**
*г. Баранавічы.*

## Кемлівая

Бацькі забралі з садзіка малую Васілінку і раяцца, што рыхтаваць на вячэру.

– Хочаце, я сёння прыгатую вам лянівыя варэнікі? – пытае маці.

– Не, мамачка, лепш варэнікі працалюбівыя! – просіць Васілінка. – Няўжо вы не ведаеце, што праца ўпрыгожвае чалавека?!

## І яе свята

Юльчыных бацькоў віншуюць з юбілеем сумеснага жыцця.

– Гэта і маё свята таксама! – гаворыць малая.

– Як гэта? – пытае маці.

– А я ж – ваш сумесны прадукт!

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

## Без бонусаў

*Гісторыйка*

Маладыя бацькі сабраліся ў госці. Але ж куды дзець малога Сцёпку? Калі пяцігадовы сынок даведаецца, што застанецца адзін, слязам не будзе межаў. Таму яны перанеслі сустрэчу з сябрамі на вечар, мяркуючы, што хлопчык засне, і можна будзе спакойна ехаць. Аднак кемлівы Сцёпка яшчэ з вечара заўважыў нешта падазронае: у халадзільніку з'явіўся вялікі карамельны торт.

– Во, зараз есці будзем! Я дастаю! – узрадаваўся малы.

– Пакінь, гэта не табе! – сказаў бацька.

Сцёпка разгубіўся. Як гэта не яму?

– А што, у нас свята якое? – пацікавіўся ён.

– Не, проста торт. Суседзі папрасілі купіць, – патлумачыла маці.

Хлопчык нічога не разумеў. Кулінарыя ж побач з домам!

– А чаму яны самі не купілі? – здзівіўся хлопчык.

– Шмат будзеш ведаць – хутка састарышся, – увільнулі ад адказу дарослыя. – Кладзіся спаць, Сцёпка, палова на дзявятую, як-ніяк.

– Яшчэ ж рана! – не супыняўся малы.

– Машына закапрызнічала, зранку паедзем на аўтобусе, – адказаў бацька.

Сцёпка задумаўся. Заўтра, пэўна, яны з таткам пойдуць разбірацца, што здарылася, пад капот палезуць. Узрушаны гэтай думкай, Сцёпка пайшоў спаць.

«Вось дык паслухмяны», – нарэшце ўзрадаваліся бацькі.

Маці накрыла сыночка коўдрай, бацька быў нават гатовы праспяваць калыханку.

Праз паўгадзіны ён прашаптаў:

– Сцёпа, ты спіш?

– Не.

– Застанешся заўтра без цукерак.

Яшчэ паўгадзіны прайшло.

– Сцёпа, ты спіш? – асцярожна спытала матуля.

– Сплю.

– На вуліцу заўтра гуляць не пойдзеш.

«Не хачу я без бонусаў заставацца, прыкінуся лепш пасапраўднаму», – разважыў малы.

Яшчэ праз паўгадзіны зноў пачулася пытанне:

– Ты спіш?

У адказ – маўчанне.

– Усё, спіць! – радасна зазначыў бацька. – Збіраемся! Бяры падарункі, торт і паехалі...

– Куды?..

Сцёпка не ўстрымаўся.

**Даслала Алена БАСІКІРСКАЯ,**
*г. Міёры.*

Ганна АТРОШЧАНКА

# Жаніцьба Люсі

*З натуры*

На дзень нараджэння сяброўка падарыла Аўдоцці труса. Настуся параіла, каб тая тэрмінова пачала разводзіць гэтых жывёл. Расказвала пра бясспрэчныя плюсы: на стале заўсёды будзе мяса, а ў кішэні – дадатковыя грошы.

Аўдоцця нічога не ведала пра гадаванне трусаў, таму Настуся прачытала некалькі змястоўных лекцый, каб Люсі (так назвалі новае папаўненне ў гаспадарцы) расла здаровай і бадзёрай.

Трэба сказаць, імянінніца з імпэтам узялася за новую справу. Увечары, узброіўшыся сярпом і торбай, бегла на луг, дзе шукала сакавітую траву. Да рацыёна трускі яшчэ дадавала моркву, буракі і нават хлеб.

Люсі хутка расла і набірала вагу. Настуся параіла:

– Заўтра прынясі сваю Люсі на «прыём» да майго труса Пусіка. Такое спатканне неабходна, каб дачакацца нашчадкаў.

З самага ранку, злавіўшы сваю трусіху, жанчына накіравалася да сяброўкі. Настуся адчыніла клетку і штурхнула туды спалоханую Люсі. Але амаль адразу паміж «жаніхом» і «нявестай» чамусьці ўзнікла бойка. Ды яшчэ якая! Клетка ажно хадуном захадзіла, поўсць ляцела ва ўсе бакі...

Настуся шэптам зазначыла:

– Адразу бачу, не прыме Пусік Люсі. Мусіць, нечым яму не спадабалася. Вельмі пераборлівым аказаўся! Пайшлі хутчэй да Яўхіма. У яго вельмі пладавіты трус, які дапамог многім вяскоўцам у гэтай далікатнай справе.

Аўдоцця зноў згрэбла пад паху сваю гадаванку ды разам з сяброўкай патупала да суседа. Але і там адбылася тая ж гісторыя. Заклапочаны Яўхім параіў зазірнуць да Лявона, у якога таксама добрая трусагадоўля.

Той сустрэў сяброўак каля брамы. Адразу правёў жанчын у двор, з гонарам паказаў сваіх сытых гадаванцаў. І паабяцаў, што нашчадкі атрымаюцца такімі ж пухнатымі і вялікімі. Але абяцанне не спраўдзілася. Бо ў клетцы адразу ўзнікла знаёмая валтузня. Люсі, учапіўшыся за доўгае вуха «жаніха», моцна малаціла лапамі яму па спіне. Зноў паляцела поўсць, пачуўся непрыемны піск...

Устрывожаны гаспадар вырашыў парушыць спатканне. Злавіў Люсі, пільна ўгледзеўся пад хвост. І гучна, на ўвесь двор, зарагатаў. Выцер слёзы, што выступілі ад смеху, ды сказаў здзіўленым суседкам:

– Жанчыны! Вы каго сюды прынеслі, га? Дзе ж вашыя вочы былі? Гэта ж... «хлопец», а не самачка!

Аўдоцця зніякавела. Таксама зазірнула пад хвост... І пачырванела. Бо было ад чаго! Са злосцю перавяла позірк на Настусю. Хацела адразу з ёй пасварыцца, але перадумала. Са смехам патрапала па галаве труса і прамовіла:

– Ну што, Люсік? Прыйдзецца табе «нявесту» шукаць.

– А я дапамагу, – прапанавала Настуся.

І сяброўкі пайшлі дадому, прыдумляючы новыя варыянты «жаніцьбы» труса.

*г. Гомель.*



Пётр КОЗІЧ.



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




# Без сала толку мала

Скончылася дома сала –
Талія танюткай стала.
Кволы шэпча галасок:
«Дайце сала мне шматок...»

Хоць бы скрылік паспытаць –
Немагчыма ж працаваць!
Трыста б спраў перарабіла,
Калі б салам закусіла.

Сорам нават і прызнацца:
Перастаў мой муж кахацца.
Можа, хто на косці падкі,
А яму – была каб гладкай!

Сала ем і буду есці,
Каб фігуру годна несці.
Муж употай вока скосіць –
Ды, глядзіш, чаго папросіць!

**Ірына ЯЎЛАНАВА,**
*г. Орша.*



# Алкабар'ер



Адна знаёмая кабета
Пасябравала з інтэрнэтам.
Любіла з гэтай павуціны
Выцягваць свежыя навіны,
Шукаць на форумах ды ў блогах
Парады, як лячыць хваробы.
Такі прастор тут, даляглядыǃ..
Муж вар'яцее: «Дайце рады!
Відаць, кагось сабе шукае».
На жонку коса пазірае.
Так гаспадар ён хоць куды,
Але ж «пад мухаю» заўжды.
Жанчына ўздумала спытаць,
Як гэтых «мух» павыганяць.
Разумны выдаў інтэрнэт,
Што ёсць-такі адзін сакрэт.
Даставіў сродак ёй кур'ер
Пад назваю «Алкабар'ер».
І на сняданак, і ў абед
(Як і параіў інтэрнэт)
У страву лекі падлівае,
Эфекту хуткага чакае.
Ды з тым «бар'ерам» п'ецца
чарка –
Памог, як мёртваму прыпарка!
З тых пор знаёмая кабета
Не надта верыць інтэрнэту.

**Ірына СЯСІЦКАЯ,**
*г. Докшыцы.*



# «Вундэркінд»

Над рыфмамі Фядос нямала
Карпеў, ды толькі вось бяда:
У кожным слове залівала
Агонь паэзіі вада.

Хоць ён на паэтычнай ніве
Не змог зрабіць наперад крок,
Але ж у творчым жыў парыве
І запісаўся ў драмгурток.

Уцяміў хутка: «Да магілы
Артыстам стаць не ўдасца мне».
І спрабаваць пачаў ён сілы
Свае ў музычнай галіне.

Не стаў у выніку артыстам
Ці кампазітарам Фядос...
А мог быць добрым
трактарыстам,
Каб не амбіцый поўны воз!

**Мікалай ГЛЕБ,**
*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*






## ДАЛІКАТНЫ ЗАЯЦ

*Гісторыйка*



Толькі пасунуўся наперад, каб заняць вызваленае іншым пасажырам крэсла, як на яго імгненна ўскочыў нейкі хлопец. Я яшчэ раз акінуў позіркам салон аўтобуса, але больш ніводнага свабоднага месца не было. Таму застаўся стаяць каля крэсла, якое «захапіў» малады чалавек.

Раптам той ускочыў, кінуў «Сядайце!» і знік у натоўпе. Я павольна апусціўся ў крэсла і звярнуўся да жанчыны, якая сядзела побач:

– Здаецца, дарэмна нашу моладзь лаюць. Вось бачыце, які далікатны хлопец, усё ж уступіў старому месца. А я нават падзякаваць не паспеў.

Жанчына ўсміхнулася і адказала:

– Шаноўны, няма за што тут словы падзякі казаць. Проста ў аўтобус увайшлі кантралёры...

**Віталь ЖУРАЎСКІ,**
*г. Жодзіна.*





Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.

## АНЕКДОТ

Начальнік і два яго супрацоўнікі пайшлі разам абедаць і знайшлі старую лямпу. Калі пацёрлі яе, то з’явіўся джын і сказаў:

– Звычайна я выконваю тры жаданні, таму кожны з вас можа загадаць па адным.

– Дазвольце спачатку мне, – гаворыць першы супрацоўнік. – Я хачу зараз апынуцца на Багамах і загараць на цёплым пясочку.

Бах! І ён кудысьці знік.

– Я! Я наступны! – закрычаў другі супрацоўнік. – Я хачу на Гаваі, у лепшую гасцініцу, якую там толькі можна знайсці.

Бах! І таксама знік.

– Зараз твая чарга, – звяртаецца да начальніка джын.

– Добра, я хачу, каб гэтыя два «курортнікі» былі на працы пасля абеду.

Мараль: заўсёды дай начальніку выказацца першым.

## Сямейны падрад

Добра, калі бацькі падтрымліваюць сваіх дзяцей ва ўсіх пачынаннях, даюць парады ды робяць усё магчымае, каб іх крывінка знайшла сваё месца пад сонцам. Але ў любым правіле бывае выключэнне.

Апошнія сем гадоў адзін гамяльчанін спрабаваў рэалізаваць сябе ў якасці шлюбнага аферыста. І, трэба сказаць, атрымоўвалася гэта ў яго нядрэнна: больш за трыццаць жанчын з Гомельскай, Магілёўскай, Мінскай і Віцебскай абласцей паверылі яму і аддалі каля 90 тысяч долараў. А «працаваў» мужчына па вельмі простай схеме. Выбіраў сабе нявесту ў інтэрнэце, потым сустракаўся асабіста і расказваў, які ён багаты, што валодае караоке-клубам, салонамі прыгажосці ў Кіеве і Маскве, нерухомасцю. Дадаваў, што з'яўляецца ўкраінскім дэпутатам або ўладальнікам буйнога прадпрыемства. А каб ні ў адной жанчыны не ўзнікла падазрэнняў наконт сур'ёзнасці яго намераў, знаёміў з маці, якая была ў курсе ўсіх спраў і нават сама прапаноўвала ідэі для вымагання грошай. Пазычалі грошы ў жанчын яны часцей за ўсё на нейкія звышважныя справы. Напрыклад, пакупка аўто ці анкалагічнае захворванне ўнучкі. А як толькі патрэбная сума




аказвалася ў аферыста, усё жаданне жаніцца кудысьці знікала.

Зараз сямейнаму падраду гамяльчан пагражае да дзесяці гадоў зняволення. Цікава, а ці будуць яны пісаць лісты і падтрымліваць адзін аднаго ў турме?

## Двухколавыя сябры

Як добра пракаціцца на веласіпедзе пасля доўгай зімы! Цёплы вясновы ветрык дзьме ў твар, птушкі спяваюць! Тым больш для многіх гэты двухколавы апарат з'яўляецца сапраўдным сябрам, набыццё якога каштуе немалых грошай.

Вось толькі ў апошні час добраахвотнікаў задарма займець сабе такіх «жалезных коней» становіцца ўсё больш. У канцы сакавіка ў Савецкім раёне Мінска ўкралі ажно сем веласіпедаў. Па гарачых слядах амаль адразу былі арыштаваны трое маладых хлопцаў. У ходзе допыту яны прызналіся, што хацелі прадаць веласіпеды, а грошы патраціць на свае патрэбы.

Вядзецца следства. Злодзеі могуць трапіць за краты на тэрмін да чатырох гадоў ці на выпраўленчыя работы. У любым выпадку гэта здарэнне будзе добрай навукай для ўсіх, у каго ўзнікне думка спакусіцца на чыйсьці веласіпед.

## Рытарычнае пытанне

Трапляючы на чарговую навіну аб затрыманні наркадылера, ці ўзнікала ў вас пытанне: а навошта людзі пачынаюць займацца продажам і перавозкай «дурману»? Звычайная прага да лёгкіх грошай, а можа, вялікая нелюбоў да ўсяго чалавецтва? Пэўна, гэта пытанне яшчэ доўга будзе лічыцца рытарычным.

Яго, дарэчы, задалі беларусу, якога затрымалі на пункце пропуску «Брузгі» ў Гродзенскай вобласці, калі знайшлі ў машыне 78 кілаграмаў гашышу. Агульны кошт наркотыка склаў каля двух мільёнаў долараў. Мужчына не змог даць аніякага апраўдальнага адказу ці растлумачыць свой зламысны ўчынак.

Узбуджана крымінальная справа. Наркадылеру давядзецца правесці за кратамі да дзесяці гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці. Можа, за гэты час у яго атрымаецца знайсці адказ на абазначанае вышэй рытарычнае пытанне?




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.




Мікола ГІРГЕЛЬ.




# Перастрахаваўся

*Быль*

Штогод у пачатку дзевяностых, як толькі добра пацяплее, да нашай сям'і ў госці ў вёску прыязджаў сваяк з Польшчы, пан Збышак. Ды за кампанію браў жонку, паненку Рузю. Падарожнічалі яны звычайна без прыгод, але адно выключэнне ўсё ж такі аднойчы адбылося.

...Даехаўшы да райцэнтра, Збышак спыніў свой «фольксваген» каля прыдарожнага кафэ, каб крыху перадыхнуць і падсілкавацца перад апошнім дзесяцікіламетровым адрэзкам да вёскі. Пайшла з ім і пані Рузя. Калі прыселі за столік, пан Збышак заказаў сабе пару куфляў «Жыгулёўскага», сякую-такую закусь і з неверагоднай асалодай прыняўся паглынаць ежу і напой. Вось толькі бедалага не ведаў, што як толькі ён накіраваўся да кафэ, за ім уважліва пачаў сачыць адзін з паставых патрульнай службы. Дарэчы, яго ведалі ва ўсім раёне, бо вельмі ж любіў прыдзірацца да вадзіцеляў ні за што ні пра што. Відаць, хацелася яму быць на добрым уліку ў начальства. А тут такая магчымасць затрымаць п'янага за рулём, тым больш іншаземнага! Гэта не проста прэмія, гэта на павышэнне цягне.

Упэўніўшыся, што Збышак жлукціць піва, паставы радасна накіраваўся да польскай машыны. Потым з задавальненнем, не спяшаючыся, выкруціў вентылі з колаў. «Няхай нават не думае, што п'яным ён кудысьці паедзе! Я тут сачу за вадзіцелямі як трэба!» — думаў паставы.

Тым часам Збышак з Рузяй выйшлі з кафэ, падышлі да свайго аўто і аслупянелі: спушчаны ўсе чатыры колы. Да іх адразу падбег паставы, папрасіў дакументы і патлумачыў, што далей ехаць вадзіцель не можа, бо выпіў піва.

Збышак пачаў тлумачыць:

– Паважаны, ваша праўда, я выпіў піва, але ў маёй жонкі ёсць вадзіцельскія правы і далей паедзе яна.

Настала, як кажуць, нямая сцэна. Пачаў збірацца народ. Пан Збышак адчыніў багажнік, дастаў адтуль помпу і працягнуў яе капітану:

– Можа, тады вы зноў перастрахуецеся і самі надзьмеце колы? А то раптам у мяне з-за алкаголю гэта не атрымаецца як трэба.

Што было рабіць? Праклінаючы ў думках усё на свеце, паставы пачаў працаваць. Толькі ўвечары ён скончыў надзімаць колы. І ўвесь гэты час да машыны падыходзілі людзі і смяяліся з недарэчнай сітуацыі.

З той пары ў паставога з'явілася мянушка Перастрахоўшчык. І кожны вадзіцель у раёне абавязкова вазіў у сваёй машыне помпу. На ўсялякі выпадак...

**Мікола КАМАРОЎСКІ,**
*г. Орша.*




Алег КАРПОВІЧ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Пётр КОЗІЧ.




Алег ГУЦОЛ.

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 4 (1543), 2017 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.



Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by; vozhyk@zviazda.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны, 748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 04.04.2017. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,53. Тыраж 947 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






— Дай і мне хоць трошкі пагуляць! — кажа жонка мужу, які сядзіць за камп'ютарам.

— Май сумленне, даражэнькая, — сур'ёзна адказвае той. — Хіба я прасіў у цябе анучу, калі ты падлогу мыла?

* * *

Неяк на вечарыне сустрэліся чалавек-павук, чалавек-мурашка і жанчына-кошка.

«Я сабраў вас зусім невыпадкова!» — зазначыў чалавек-псіхіятр.

* * *

Пасля сямейнай сваркі муж атрымлівае на тэлефон паведамленне ад жонкі: «Пайшла гуляць з тваёй крэдыткай. Ужо амаль даравала табе».

* * *

— Я кахаю цябе! — кажа ён.

— І што, мне трэба расплакацца? — не разумее яна.

— Ды хоць паспачуваць!..

**Даслаў**
**Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*

# Абы здароўе!




**Малюе Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ**












# «Вожыкаўскі плакат»



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.









